Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
В.а. галоўнага рэдактара
і заснавальнік Павел Жук
Выдавец – рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Адрас для карэспандэнцыі:
220034, г.Мінск,
вул. Змітрака Бядулі, 6-47.
Тэл/факс: 236-89-40

# НАВІНЫ



Серада, 17 лютага 1999 г. № 18 (549) Кошт свабодны

## Чарговы наступ на свабоду слова

**Дзяржкамітэт па друку вынес папярэджанні шасці незалежным газетам, якія надрукавалі матэрыялы па правядзенні ў нашай краіне чарговых прэзідэнцкіх выбараў, прызначаных Вярхоўным Саветам 13-га склікання на 16 траўня 1999 года.**

Сярод апальных выданняў старшыня камітэта Міхаіл Падгайны назваў нашую газету НАВІНЫ, але рэдакцыя пакуль не атрымала гэтага цыркуляра. Па словах М.Падгайнага, падставай для папярэджанняў стаў афіцыйны ліст міністэрства юстыцыі. Маўляў, «Белорусская деловая газета», «Свободные новости», «Народная газета» і «Пагоня» парушылі ажно два артыкулы канстытуцыі, а таксама пяты артыкул закона аб друку. У папярэджанні, якое атрымала «Народная воля», сцвярджаецца, што публікацыя дакументаў «неіснуючага дзяржоргана па пытаннях арганізацыі выбараў прэзідэнта» парушае закон аб друку ў частцы «заклiку да захопу ўлады». Дарэчы, у нашай краіне падчас выбарчых кампаніяў улады заўсёды пачыналі жорсткі наступ на свабоду слова. У аддзеле рэгістрацыі дзяржкамітэта зазначылі, што калі рэдакцыі не спыняць асвятленне прэзідэнцкай выбарчай кампаніі, то дзяржкамітэт можа прыпыніць выхад газет нават без разбiральніцтва ў судзе. У якасці шостай папярэджанай газеты чыноўнікі называлі тыднёвік «Имя».

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

## «Шукалі» бомбу – канфіскавалі плакаты

**12 лютага гомельская міліцыя ў колькасці да двух узводаў пад камандаваннем намесніка начальніка абласнога УУС палкоўніка Салаўёва і начальніка Цэнтральнага РАУС падпалкоўніка Смолікава захапіла офіс гомельскай філіі Беларускага Хельсінкскага Камітэта.**

Без санкцыі пракурора міліцыянты абшукалі офіс і канфіскавалі каля 14 тысяч плакатаў-абвестак аб маючых адбыцца 16 траўня выбарах прэзідэнта краіны. З прысутных у гэты час у офісе старшыні гомельскай філіі БХК Я.Мурашкі, магілёўца А.Фёдарава і беспрацоўнага гамяльчаніна Л.Удовенкі былі ўзяты пісьмовыя тлумачэнні аб паходжанні плакатаў. Захоп і вобыск праводзіўся пад смехатворнай прычынай пошукаў нейкай бомбы. Пры гэтым «бомбу» міліцыя шукала толькі ў офісе БХК, іншыя памяшканні будынка яе не цікавілі. Пад час акцыі асаблівай дзёрзкасцю і нахрапістасцю вызначыўся палкоўнік Салаўёў, якога ў Гомелі ведаюць як непрыхаванага ворага беларушчыны.

**Уладзімір ВАЛЕЎСКІ**

## У школах каранцін

**У сувязі з эпідэміяй грыпу ў школах каранцін працягнуты яшчэ на адзін тыдзень.**

Як паведамілі ў Рэспубліканскім цэнтры гігіены і эпідэміялогіі, апошнія дадзеныя сведчаць, што ў Брэсце, Пінску, Віцебску, Оршы, Барысаве, Маладзечне, Магілёве і Бабруйску пачаўся невялікі спад эпідэміі грыпу. У Мінску і Гродне колькасць хворых застаецца на ранейшым узроўні. Затое ў Полацку, Баранавічах, Гомелі, Мазыры, Рэчыцы, Лідзе і Салігорску грып нарастае. З пачатку эпідэміі перахварэлі каля 340 тысяч чалавек.

**Мікола ВАЙТОВІЧ**



# Беразоўскі зноў ратуе СНД

Сустрэча кіраўнікоў краінаў СНД, якая мелася адбыцца 26 лютага ў Маскве, перанесена на нявызначаны тэрмін. Прычына — непадрыхтаванасць асноўных дакументаў на рэфармаванне кіруючых органаў Садружнасці. Гэтую інфармацыю пацвердзілі ў мінскай штаб-кватэры СНД, дзе зараз праходзіць спецыяльны міждзяржаўны форум па рэфармаванні.

Чаму ж прыйшлося адкласці сустрэчу прэзідэнтаў? Пасля канфузу, які адбыўся ў мінулым годзе ў Кішынёве, дзе лідэры краінаў СНД марна патрацілі час на безвыніковую сустрэчу, да новых самітаў на вышэйшым узроўні вырашана ставіцца вельмі асцярожна. Па прынцыпе, калі няма чаго падпісваць, то не трэба і сустракацца. І зараз сапраўды высветлілася, што гатовых да подпісу дакументаў па рэфармаванні Садружнасці ў Мінску пакуль няма. Калі яны з'явяцца? Цяжка адказаць, бо да былых праблемаў, якія перашкаджалі знайсці паразуменне, дабавіліся новыя. У прыватнасці, Узбекістан нядаўна заявіў, што не згодны з варыянтам надання кіруючым органам СНД больш шырокіх уладных паўнамоцтваў. Гэты варыянт Барыс Беразоўскі ўжо, здавалася, узгадніў з кіраўнікамі краінаў СНД, а зараз высвятляецца — марна стараўся. Калі ўлічыць, што раней Узбекістан абвясціў аб сваім выхадзе з Савета па калектыўнай бяспецы, то фактам становіцца яўнае дыстанцыраванне гэтай цэнтральна-азіяцкай краіны ад СНД.

Аднак, калі б толькі Узбекістанам абмяжоўваўся спіс «уцекачоў» ад Масквы? Цыркулюе інфармацыя, што з дамовы аб калектыўнай бяспецы ўслед за Узбекістанам могуць выйсці Азербайджан і Грузія, што канчаткова разбурыць тую платформу, на якой стваралася СНД. І такі працэс ужо ідзе. Па звестках, прадстаўнікі гэтых краінаў на перамовах у Мінску усё часцей выступаюць альбо яўна насуперак прыхільнікам шчыльнай інтэграцыі, альбо з «мяккай» крытыкай, прычым кансалідавана.

Праўда, кіраўніцтва штаб-кватэры СНД глядзіць на сітуацыю больш аптымістычна. *«Магчыма, ужо ў чацвер мы зможам абвесціць пэўны вынік працы над будучымі дамовамі. Тады і стане вядома прыблізная дата сустрэчы прэзідэнтаў»,* — сказаў НАВІНАМ намеснік выканаўчага сакратара СНД Іван Каратчэня.

І ўсё ж, толькі на свае сілы ў Мінску ўжо не спадзяюцца. Па звестках, сёння ў Мінск плануе прыбыць выканаўчы сакратар СНД Барыс Беразоўскі. Узгоднены ім раней план рэфармавання СНД яўна трашчыць па ўсіх швах. Трэба ўгаварыць адных, прылашчыць другіх. Карацей кажучы, толькі тытанічныя намаганні ды гнуткасць Барыса Абрамавіча могуць выратаваць сітуацыю. Калі саміт прэзідэнтаў СНД правядзіцца яшчэ раз, гэта будзе азначаць непазбежную адстаўку Беразоўскага з пасады «галоўнага каардынатара», сцвярджае крыніца ў штаб-кватэры СНД.

**Алесь ПАЎЛОВІЧ**



НАШЫ ДЗЕЦІ

## Перапісаць усіх

**Учора ў нашай краіне стартаваў усеагульны перапіс насельніцтва, які працягнецца да 23 лютага. У гэтай акцыі задзейнічана больш за 41 тысячу кантралёраў, інструктараў, загадчыкаў участкаў і лічыльнікаў.**

За сваю працу 33 тысячы лічыльнікаў атрымаюць па тры мінімальныя заробкі, а загадчыкам перапісных аддзелаў дададуць па 5 мінімалак. Кожны лічыльнік атрымаў партфель з пэўнай колькасцю перапісных лістоў, якія ён абавязаны вярнуць на ўчастак. Нядаўна міністэрства статыстыкі і аналізу надрукавала перапісныя лісты на беларускай мове, колькасць якіх складае ўсяго 20 працэнтаў. Грамадзяне не абавязаныя дакументальна пацвярджаць свае адказы, а лічыльнік павінен мець спецыяльнае пасведчанне з пячаткай мясцовага райвыканкама і пашпарт. Пры неабходнасці ён можа прыйсці разам з участковым міліцыянерам. Калі ж гаспадар наогул не ўпусціць лічыльніка ў хату і не захоча быць перапісаным, то, па словах загадчыка аддзела міністэрства статыстыкі, «такі грамадзянін акажацца па-за народам, але гэта не будзе мець ніякіх адміністратыўных наступстваў». Першыя вынікі перапісу плануецца падвесці да 7 сакавіка.

**Мікола ВАЙТОВІЧ**

## Суд апытаў сведкаў

Учора ў пасёлку Дамачава на Брэстчыне адбылося выязное паседжанне Лонданскага акруговага суда, у якім праходзіць працэс над былым камендантам дамачаўскай паліцыі Андрэем Саванюком.

Заключны этап судовага працэсу над Саванюком пачаўся ў Лондане 8 лютага. Па прапанове адвакатаў былога паліцая суд прыняў рашэнне выехаць на месца злачынства: на месцы дапытаць сведак, якія засталіся жывымі. У панядзелак 12 прысяжных, 6 адвакатаў, 6 пракурораў і больш двух дзесяткаў журналістаў вядучых брытанскіх інфармагенцтваў, тэле- і радыёкампаній прыбылі ў Брэст. Нагадаем, што правядзенне выязнога паседжання Лонданскага суда за мяжой з'яўляецца першым падобным выпадкам за ўсю гісторыю брытанскага правасуддзя. На праведзеным у Брэсце брыфінгу для журналістаў прэс-сакратар міністэрства юстыцыі паведаміў, што фотакарэспандэнтам і тэлеаператарам забараняецца здымаць прысяжных суддзяў бліжэй чым за 40 ярдаў (амаль 40 м.). Брытанцы лічаць, што здымкі суддзяў буйным планам могуць негатыўна паўплываць на будучы прыгавор.

Учора ўдзельнікі працэсу з'ездзілі ў Дамачава, дзе агледзелі месца расстрэлу вязняў гета і дапыталі сведак тых падзеяў. Асноўныя паказанні суду даў сп.Фёдар Зань, які бачыў, як 57 гадоў таму Саванюк кіраваў забойствам чатырох чалавек. Цікава, што думкі жыхароў Дамачава адносна злачынства Андрэя Саванюка (а тое, што менавіта ён забіваў людзей у 42-ім, у мястэчку ніхто не сумняецца) падзяліліся. Адныя лічаць, што састарэлага паліцая за даўнасцю часу судзіць не варта, іншыя наадварот патрабуюць прывезці Саванюка ў Беларусь і публічна расстраляць.

Прыгавор па справе Андрэя Саванюка хутчэй за ўсё будзе вынесены не раней сакавіка.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

## 47 пад расстрэл

Летась да выключнай меры пакарання судамі Беларусі былі прыгавораныя 47 чалавек. Пра гэта паведаміла прэс-служба Вярхоўнага суда Беларусі. Тры чалавекі былі прыгавораныя да пажыццёвага зняволення, 53 злачынцы — да пазбаўлення волі на тэрмін ад 15 да 25 гадоў. Усяго летась судовай сістэмай рэспублікі разгледжана больш за 54 тысячы крымінальных і каля 130 тысяч грамадзянскіх справаў. Былі асуджаныя 59.700 чалавек. З іх 21.650 былі пазбаўленыя волі.

*БелаПАН*

# Карпенка просіцца на працу

**Як нам стала вядома, нядаўна Генадзь Карпенка напісаў заяву аб прыёме яго на працу ў Навукова-вытворчы канцэрн парашковай металургіі.**



Мы звязаліся з ім, каб пацікавіцца, ці не збіраецца старшыня ценявога ўрада Беларусі — Нацыянальнага выканаўчага камітэта, віцэ-спікер Вярхоўнага Савета 13-га склікання пакінуць палітыку і паглыбіцца ў навуку.

Як запэўніў нас спадар Карпенка, ён не збіраецца сыходзіць з палітыкі, але «грошы зарабляць палітыку неяк трэба». Па ягоных словах, апошнія два гады ён стаяў на ўліку на біржы працы як беспрацоўны. За ўвесь гэты час працы па ягонай спецыяльнасці яму так і не прапанавалі. А два тыдні таму прынеслі позву на ўдзел у абавязковых для беспрацоўных «грамадскіх працах» — прасцей кажучы, ачышчаць вуліцы ад снегу. Вось тады і прыгадаў Ґенадзь Дзмітрыевіч, што да абрання ў склад Вярхоўнага Савета ў 1990 годзе ён працаваў у Інстытуце парашковай металургіі Акадэміі навук Беларусі.

Па словах Генадзя Карпенкі, ён напісаў заяву на імя дырэктара Беларускага дзяржаўнага Навукова-вытворчага канцэрна парашковай металургіі Яўгена Дарашкевіча з просьбай прыняць яго на працу ў канцэрн, але адказу пакуль не атрымаў. Г.Карпенка сцвярджае, што калі яго не возьмуць на працу ў канцэрн парашковай металургіі, то ён будзе спрабаваць працаўладкавацца ў Акадэміі навук, членаў-карэспандэнтам якой ён з'яўляецца.

Дырэктар канцэрна паведаміў нам, што, на жаль, вакансіяў для спецыялістаў такога класа, як доктар тэхнічных навук, член-карэспандэнт Акадэміі навук Беларусі Генадзь Карпенка, у самім канцэрне няма. Тым не менш, калі спадар Карпенка захоча пачаць працу ў адным з навукова-даследчых інстытутаў канцэрна ў якасці навуковага супрацоўніка, то ніякіх перашкодаў яму створана не будзе. Болей таго, па словах Яўгена Дарашкевіча, ён нават раіў кіраўнікам інстытутаў канцэрна прыняць на працу віцэ-спікера.

У той жа час, зазначыў Яўген Дарашкевіч, Генадзь Карпенка ўжо каля дзесяці гадоў не займаўся непасрэдна навуковай працай. І ён пакуль не ведае выпадкаў, каб такі перапынак не адбіўся на якасці працы навукоўцаў. Па словах Я.Дарашкевіча, напачатку 90-х многія супрацоўнікі ягонай арганізацыі сыходзілі ў прыватны бізнес, аднак амаль усе праз год-два вярнуліся. Генадзь Карпенка значна больш часу займаўся палітыкай, а не навукай, за гэтыя гады навука пайшла далёка наперад. Таму, відаць, калі Карпенка ўсё ж вернецца да парашковай металургіі, то яму трэба будзе прыкласці вялікія намаганні, каб не адставаць ад калегаў.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

# Гісторыкі баяцца люстрацыі

Вядомы беларускі гісторык і археолаг Алесь Краўцэвіч працаваў першым прарэктарам у Гродзенскім універсітэце імя Янкі Купалы. Калі па закліку А.Лукашэнкі пачалася рэвізія падручнікаў і беларускай гістарычнай навукі ўвогуле, такія навукоўцы, як Краўцэвіч, сталі непажаданымі асобамі. Ён выкарыстаў неспрыяльны час для напісання доктарскай дысертацыі, абараніў яе, выпусціў на яе падставе кнігу. І вярнуўся ва універсітэт.

Па закону Краўцэвічу павінны былі прапанаваць былую пасаду. Але яна цяпер занятая. У якасці кампрамісу дамовіліся стварыць кафедру гісторыі сярэдніх вякоў. А.Краўцэвіч абараніў дысертацыю аб гісторыі стварэння Вялікага Княства Літоўскага. Ён год стажыраваўся ў Ягелонскім універсітэце ў Кракаве, шмат працаваў у польскіх архівах. Навукоўцу з такім досведам варта было б даць адпаведныя магчымасці для працы, чаго вымагае і заканадаўства. Тым больш, ва універсітэце з'явілася новае пакаленне гісторыкаў, якія таксама даследуюць ВКЛ.

Аднак далей абяцанак справа не пайшла. Тады Краўцэвіч выступіў у мясцовым друку. Апроч абгрунтавання таго, як важна будзе ў Гродне глыбей вывучаць родную гісторыю Вялікага княства, ён закрануў вельмі балючае для гістарычных кадраў пытанне. У краіне працуе каля паўтары тысячы выкладчыкаў гісторыі, з якіх больш 90% абаранілі свае дысертацыі па гісторыі КПСС і савецкага ладу. У Літве ўсіх іх аўтаматычна пазбавілі навуковых ступеняў, нагадаў ён. У нас жа іх не чапалі, абы не перашкаджалі працаваць маладым...

Напісаўшы аб гэтым, Краўцэвіч развярэдзіў раны старых гісторыкаў. Як у «добрыя савецкія» часы, было склікана паседжанне кафедры. «На кафедры працуе цэлых сем былых гісторыкаў КПСС, — пачуў ён, — і вы хочаце ім люстрацыю ўчыніць, ды хто вы такі?!» Краўцэвіча абвінавацілі ў спробе стварыць ва універсітэце «Салідарнасць» і адначасова ва ўчыненні «1937-га года», у інквізітарстве, у тым, што паставіў сябе па-за калектывам.

Адзін з калегаў нават прызнаўся: «Моя жена сказала, что вы свинья. А я бы вам морду набил. По-вашему, у нас здесь коммунистическая клоака, заповедник гоблинов-коммунистов...» Адна супрацоўніца зазначыла, што дарэмна ён каціць бочкі на КПСС, якая зрабіла шмат добрага. На жаль, яе — кандыдата навук — так і не прынялі ў партыю, хоць яна двойчы пісала заяву.

Некалькі калегаў у старых савецкіх традыцыях прызналіся, што не чыталі артыкула Краўцэвіча, але таксама асуджаюць аўтара. За тры гадзіны гэткага «навуковага дыспута» былому прарэктару давялося пачуць яшчэ нямала разнастайных «кампліментаў». Аднак да традыцыйнага ў колішнія часы абвінавачання ў «рабоце на амерыканскую разведку» не дайшло. Усё ж такі ёсць прагрэс.

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

ЧЫТАЦКАЯ ДУМКА

# Здраджаная Беларусь

Гартаючы энцыклапедыю «Амерыкана», я са здзіўленнем даведалася, што большасць амерыканскіх штатаў захавала назвы тых індзейскіх плямёнаў, якія там пражылі некалькі тысячагоддзяў, але былі вынішчаныя падчас стварэння ЗША. Назвы жывуць, людзі — зніклі. Узгадалася і Прусія, дзе замест высечанага крыжакамі балцкага племені прусаў аселі нямецкія каланісты, а пасля высялення апошніх — рускія (ужо і назвы нават не засталося ад абарыгенаў, бо стала Калінінградская вобласць). Існавала на маёй яшчэ памяці Карэла-Фінская АССР. А зараз там ні фінаў, ні карэлаў, а жывуць рускія і рускамоўныя перасяленцы. Нічога, апроч назвы Карэлія.

Можна запоўніць ліст такім пералікам зніклых краінаў і асіміляваных народаў, што крывавымі плямамі трагедый засведчана ў гісторыі ўсіх кантынентаў. Усё гэта здзяйснялася праз войны, захоп, здраду, праз карысць для захопнікаў і здраднікаў, праз маральную, культурную, фізічную смерць для «інкарпараваных». У тым ліку «інкарпараваных» і ў Расійскую імперыю.

Таму мяне, старога чалавека, ахоплівае сапраўдны жах перад той блізкай будучыняй, якая праглядаецца ў «Дамове аб паглыбленні эканамічнай і гуманітарнай інтэграцыі» паміж Расіяй і Беларуссю. Сённяшнія гучныя ўхваленні аднаўляемага Саюза з боку вышэйшай бюракратыі Расіі і першага прэзідэнта Беларусі вельмі нагадваюць той налал, з якім гурманы вітаюць накрыты для абеда стол. Як сведчыць наша гістарыя, Беларусь з-за геаграфічных абставінаў заўсёды прыцягвала прагныя позіркі суседзяў. Крыжакі, крымскія татары, шведы, французы — хто толькі не прыходзіў абзіраць беларускія хаты. Звездала Беларусь клопат польскіх «братоў па славянскай крыві», і рэкамі праліла сваёй крыві за імкненне «рускага брата» па той жа міфічнай «славянскай крыві» «воссоединить исконные земли». Не хвалюючыся развіццём уласнай гаспадаркі, Расія стагоддзямі пашырала межы, каб панаваць на захопленых тэрыторыях і жыць за кошт даніны з прыведзеных да пакоры людзей. Не выкрэсліць з полацкай гісторыі тых няшчасных палачанаў, якіх апрычнікі Івана Грознага тапілі у Дзвіне, патрабуючь памяці два мільёны беларусаў — ахвяры вайны за «западные рускія землі», якую вёў «тишайший» цар Аляксей Міхайлавіч, а потым яшчэ звыш мільёна, калі вырашаў «геапалітычныя інтарэсы» Расійскай імперыі ягоны сын Пётр І. Гэта па нашай зямлі хадзілі ў штыкавыя атакі на нашых продкаў калоны сувораўскіх «чудо-богатырей», гэта тут гойсалі данскія казакі, выбіваючы пікамі паўстанцаў Каліноўскага, і гэта ў нас на Беларусі вынішчалі «беларускі нацыяналізм» бальшавіцкія змагары за сусветную рэвалюцыю і стваральнікі «новой человеческой общности». Калі скласці разам лічбы ўсіх, хто быў пазбаўлены жыцця гэтымі «вызваліцелямі», «носьбітамі шчасця для брацкай Беларусі», дык будзе не меней імёнаў, чым дасць маючы быць перапіс.



Зразумела, што простыя людзі, век якіх кароткі, невінаватыя за грахі і пралітую іхнімі продкамі на нашай зямлі кроў. Але дзяржава, якая захоўвае ідэалогію захопу, вінаватая, бо не адмаўляецца ад небяспечных ідэяў. Таму, на маю думку, прэзідэнт Ельцын, перад тым як падпісваць «Дамову» пра саюз, быў павінны ад імя Расійскай дзяржавы прынесці прабачэнні Беларусі (ды і іншым, каго заганялі ў «канстытуцыйную прастору») за мільёны загубленых тут жыццяў і скалечаных лёсаў.

Дзіўна мне робіцца ад размоў пра карысць для Беларусі «брацкага саюза» з Расіяй тых расійскіх вярхоў, якія дазволілі смерць ад голаду сваіх ваенных маракоў, галечу шахцёраў, абкраданне мільёнаў суайчыннікаў. Няўжо прага ўлады спапяляе сумленне? Відаць, застаўся толькі попел, бо як інакш мог бы прэзідэнт Расійскай Федэрацыі абдымацца з прэзідэнтам А.Лукашэнкам, які здраджвае сваёй радзіме, сваёй прысязе на Канстытуцыі дзеля таго, каб хутка ці ў блізкай перспектыве заняць ельцынскае крэсла ў маскоўскім Крамлі? Расіі гэтыя рытуальныя абдымкі прынясуць Беларусь. А што прынясе беларусам здрада прэзідэнта Лукашэнкі? Што дасць яна тым, хто паверыў, што прэзідэнт будзе верны гэтай шматпакутнай зямлі і ніколі не назаве яе «пройденным этапам»? Аднак, на прэзідэнцкіх вагах міфічнае маскоўскае крэсла важыць болей за жыццёвыя інтарэсы 10-мільённага народа. Таму рупліва вынішчаецца беларуская мова, створана сілавое забеспячэнне «ўказнага» праўлення, старанна руйнуецца гаспадарка рэспублікі. Бо галодных і залежных прасцей падманваць. Праз расійскую і сваю прапаганду людзям навязваюцца жабрацкія мроі пра шчасце пад расійскай павеццю. Але дзе і калі халопам станавілася жыць лепш? Хіба нашыя дзеці і ўнукі маюць меншыя правы быць у годнасці, у сваёй мове, чым рускія? Ці, на погляд рускага чыноўніцтва, мы такія людзі, якіх можна пазбаўляць прававой дзеяздольнасці, як вар'ятаў, бо Расіі хочацца стаць бліжэй да еўрапейскай мяжы? Можа, сапраўды, мы ўжо звар'яцелі, бо гэтым разам нас далучаюць без вайны, без пабоішча людзей, без выпалення вёсак, а проста праз здраду нашай жа першай дзяржаўнай асобы, аднаго чалавека, які заахвоціўся перайсці на працу ў Маскву. Зараз прэзідэнт Лукашэнка абяцае змяніць дзеля гэтага Канстытуцыю праз усенародны рэферэндум, каб умагчымілася балатаванне на галоўную пасаду ствараемай Конфедэрацыі (якая хутка страціць прыстаўку «кон»). Вопыт 1996 года паказвае, што механізм рэферэндуму адладжаны добра, і народнае ўхваленне здрады Радзіме дакументы засведчаць.

Але як жыць тым, хто не хоча, каб Беларусь зніклa з карты свету, каб нашая мова не легла на магілах побач з лацінскай, каб нашыя векавыя культурныя здабыткі не выкінулі на сметнік з-за непатрэбнасці іх рускай культуры, каб нашая годнасць не была навечна абражаная «добраахвотным» прыходам у той гарэм з народаў і народнасцяў, што праз стагоддзі ўтрымоўвае «старэйшы брат».

**П.МІХНЕВІЧ,**
*Мінск*

# Михаил Чигирь настроен на победу

Практически во всех районах Минской области уже созданы группы поддержки экс-премьера Михаила Чигиря. Небывалая активность людей объясняется просто: наконец-то в стране появился лидер, способный реально противостоять президенту Лукашенко. Несмотря на выжидательную позицию отдельных партий и лидеров, «глубинка» готова к активным действиям. Это весьма красноречиво продемонстрировало совещание руководителей группы поддержки М.Чигиря, состоявшееся в минувшее воскресенье. Столичная область готова к сбору подписей и, несмотря на жесткое противодействие официальных властей, уверена в конечном успехе.

Инициативные группы создаются по всей республике, в их состав может войти любой желающий. По просьбе читателей мы публикуем координаты штаба поддержки М.Чигиря: 220004. г.Минск, ул.М.Танка (ул.Танковая), д.12, кв.4. Контактный телефон: (8-017) 226-68-10, для минчан — 276-93-52.

Уже сегодня общая численность ґрупп поддержки М.Чигиря насчитывает свыше тысячи человек. Михаил Чигирь настроен на серьезную политическую борьбу и уверен в победе.

Примечательно, что среди людей, открыто поддержавших Михаила Николаевича, немало руководителей предприятий, колхозов, совхозов и даже представителей «вертикали».

# Романтический идиотизм г-на Федуты

**Руслан БАТЕНКОВ**

Фраза, вынесенная в заголовок, — отнюдь не оскорбление чести и достоинства некогда влиятельного члена президентской команды, а ныне претендующего на оппозиционность нынешней власти политического аналитика. Это не более чем характеристика, вынесенная Александру Федуте самим Александром Федутой (см. «Белорусскую деловую газету» от 4.05.98), в пылу очередного раскаяния за содеянное в бытность у кормила, поила и одевала. Изучив труды, вышедшие из-под пера г-на Федуты в течение последних нескольких лет, не могу не признать совпадение его и моих взглядов на персону обозревателя одного из ведущих негосударственных изданий страны.

Лично с Александром Иосифовичем я не знаком. Но это не имеет ровным счетом никакого значения, поскольку главное в итоге — не застольные разглагольствования, а конечный продукт, выносимый на всеобщее обсуждение и воспринимаемый буквально. Как почитатель «БДГ» и читатель А.Федуты смею сделать вывод, что обозреватель газеты на самом деле принимает правила игры формально нелюбимой им президентской команды.

...Александра Иосифовича никогда нельзя было упрекнуть в избытке теплых чувств к белорусской оппозиции. Едва ли не в каждом творении, анализирующем ее деятельность, сквозит неприкрытая любовь к предмету исследования: *«ничтожество белорусской оппозиционной элиты»* («БДГ», 14.04.97), *«оппозиция, существующая в общественном сознании лишь до той поры, пока о ней пишет негосударственная пресса»* (там же), *«...появляется и исчезает в одночасье, чтобы потом транслировать свою волю через священное факсописание или нерукотворную видеоикону»* (это о З. Пазьняке, «БДГ», 29.09.97), *«она била морды официальным журналистам прямо во время дипломатических приемов... она провозглашала отцами нации лиц, чья никчемность в этом качестве получила грандиозное подтверждение как раз на том самом октябрьском конгрессе»* («БДГ», 5.11.98), *«все последние мероприятия оппозиции поражали своей малочисленностью и привкусом организаторского убожества»* (там же), *«оппозиция вообще принялась есть г-на Вика поедом, как и положено не вполне цивилизованным аборигенам»* («БДГ», 19.11.98), *«остается жить, страдать от собственного бессилия и заниматься единственно возможным — поиском и поеданием крайних... ОБСЕ и пресса — вот кто во всем виноват по жизни»* (там же). И т.д.

Зато бывшая «контора», то бишь исполнительная власть, награждается куда более лестными характеристиками с привлечением средств изящной словесности: «государь из Грозного становится Тишайшим» («БДГ», 14.04.97), *«господствующий репрессионизм»* (там же), *«Сергей Степанович, седовласый дуайен правительственных экономистов»* («БДГ», 16.06.97), *«лишь президент находится в руце Божией, а мы-то, грешные.., находимся как раз в руце президентской»* («БДГ», 12.05.97). Разумеется, от подобных словес за версту веет иронией, однако подходы к характеристике тех, кто в очередном приступе головокружения от успехов, мягко говоря, попирает закон, и тех, кто его старается соблюдать (признаем: порой слишком и в ущерб делу), выглядят довольно странно. Роль щуки, тормошащей карася (или карпа), на мой взгляд, явно переигрывается.

Самое интересное, что г-н Федута прекрасно понимает, в какой стране живет: *«Гимна нет. Герб сомнителен: дыра в форме Беларуси медленно опускается на земной шар. Флаг непонятен: в христианской стране полумусульманское знамя. Политическая система абсурдна: парламент представляет менее половины населения страны, президентские декреты выше законов, суды полностью зависят от исполнительной власти. Конституцию не читают даже те, кто ее писал... Гражданского общества в Беларуси нет, оно растоптано, раздавлено, находится в полной прострации и лишь изредка устами профессора Потупы предвещает очередное углубление очередного кризиса»* («БДГ», 6.07.98), *«Почему парламент не вправе отменить президентский акт, зато президент может росчерком пера отменить закон?»* («БДГ», 9.07.98).

Не менее отчетливо понимает Александр Иосифович и решимость нынешней власти во что бы то ни стало остаться у руля государства и при этом не дать оппонентам ни малейшего шанса на реванш: *«Референдум 1996 года продемонстрировал, что нужные для себя результаты власть может получить достаточно легко и непринужденно»* («БДГ», 24.04.97), *«Александр Лукашенко почти все для себя уже решил. Он знает, что он участвует во всем, что сам же и будет проводить; знает, что выиграет; и даже знает, с каким именно счетом выиграет»* («БДГ», 1.10.98).

Александр Федута все знает и понимает (*«Вся эта картина кажется лично мне весьма стройной и убедительной, поскольку основывается не только на конкретных фактах, но и на элементарном знании политических технологий»* («БДГ», 28.07.98), но тем не менее не может устоять перед соблазном откушать запретный для него и ему подобных плод — депутатский мандат, мандат народного посланника в Минский горсовет. Аналитик оппозиционной газеты намерен участвовать в выборах, назначенных на 4 апреля карманной палатой (*«Пятое «лицо» в данной ситуации является бездействующим и полностью страдающим. Это, собственно говоря, и есть вышеупомянутая Палата представителей. От нее не зависит ничего»* («БДГ», 16.10. 97). При этом, вероятно, забыв или постаравшись забыть, что наступает на горло совсем недавно спетой песне (*«...оппозиция мается, участвовать ей в выборах или не участвовать, легитимизировать таким образом власть в глазах мирового сообщества или же нет...»* («БДГ», 1.10.98), которая логично перекликается с утверждением, что *«кое-что — например, с референдумом 1996 года — очень даже не в порядке»* («БДГ», 19.11.98).

В качестве обоснования (оправдания?) своего поступка Федута приводит следующий аргумент: *«Предположим, что избиратели послушаются нашу оппозицию и не придут на выборы... Оппозиционный электорат останется без своих представителей в органах хоть какой-то власти. У президента останется возможность задавать вслух один и тот же вопрос: а кого все эти шушкевичи-богданкевичи представляют? Кто за ними стоит?»* («БДГ», 18.01.99).

«Элементарное знание политических технологий» наталкивает на вывод, что и в случае с выборами власть будет действовать согласно поговорке «Увяз коготок — всей птичке пропасть». Не о шушкевичах-богданкевичах будет она разглагольствовать, а о нормально текущем демократическом процессе, в котором участвуют известные оппозиционеры (к слову, БТ уже сообщило о намерении Александра Иосифовича участвовать в *«коллективном безумии, именуемом выборами»* («БДГ», 18.01.99).



Мало сомнений в том, что г-на Федуту и ему подобных попытаются пробросить (напомним: *«нужные для себя результаты власть может получить достаточно легко и непринужденно»*) — для организаторов выборного шоу как никогда важен сам процесс. Но даже если наш кандидат и проскочит, это будет сродни появлению очередного комара возле уха объедающего свои дела слона. Многие жители столицы наверняка уже и забыли о существовании органа власти под названием Минский городской совет, а подавляющее большинство затруднится ответить на вопрос, какое влияние он имеет на происходящее в городе. Впрочем, о том, что такое местные выборы по-белорусски, подробно растолковал другой политаналитик «БДГ» Владимир Дорохов, причем на той же полосе, где выступил с очередными размышлениями о текущем моменте г-н Федута (см. номер от 8 февраля 1999 года).

Пикантность ситуации, в которой оказался Федута, еще и в том, что, согласно самому Федуте, *«законодательные акты, принятые после лишения депутатского статуса оппозиционеров, в исторической перспективе будут юридически ничтожными»* («БДГ», 24.04.97). Таким образом, принятый палатой *«законодательный акт»* о выборах в местные Советы получается *«юридически ничтожным»*, а следовательно, как депутат горсовета г-н Федута полностью нелегитимен.

Возможно, Александр Иосифович внутренне прогнозирует, что уж он-то станет тем счастливым исключением, которое в перспективе сможет повернуть реки вспять. Практика, однако, показывает, что прогнозист из Федуты худой, несмотря на его непреодолимую тягу к сему неблагодарному делу: *«Гг. Шарецкого с Новиковым и Карпенко оставят в нижней палате, а управлять верхней призовут лидера социалистов депутата Григорьева...»* («БДГ», 26.08.96), *«Премьер-министром станет нынешний минский мэр Владимир Ермошин»* (там же), *«Конституционный суд в нынешнем своем составе будет распущен; Валерия Тихиню делегируют и в новый — от парламента, — но уже в качестве рядового судьи. Его преемником попытаются объявить Григория Василевича, но ввиду явной его «непроходимости» сойдутся на Александре Абрамовиче: все-таки опыт есть опыт»* (все там же), *«Нынешний президентский отпуск, похоже, грозит разрешить судьбу Сергея Степановича»* (16.06.97), *«это закономерно и неизбежно, как неизбежна отставка Мясниковича»* («БДГ», 4.05.98)...

Видимо, участием в местных выборах и продиктовано стремление г-на Федуты как можно изощреннее расчехвостить объявленную Верховным Советом президентскую кампанию: *«От безысходности — надо же что-то делать! — началась предвыборная президентская кампания оппозиции»* («БДГ», 25.01.99), *«Оппозиция ринулась в президентские выборы с упорством, заслуживающим лучшего применения»* (там же).

Особенно показательно сравнение двух пассажей. Первый: *«Вопрос в том, хватит ли у депутатов, не пожелавших идти под начало тов. Малофеева А.А., сил и желания дальше бороться за свое возвращение из виртуальной политической реальности в правовое поле Конституции 1994 года, отстаивать свою политическую физиономию и демонстрировать, что и они — власть. Когда-то Гончар сказал, что новый президент выйдет из депутатского корпуса 13-го созыва. О личных шансах Виктора Иосифовича можно спорить, но гнездо, из которого взлетит птичка, он указал точно. Главное — не начать вновь ссориться... За власть нужно бороться. Возможно, не теми способами, которые использует Лукашенко, но с той же последовательностью и настойчивостью. И если депутаты это поймут, они вернутся во власть»* («БДГ», 20.10.97).

После того, как депутаты, согласно предначертаниям Федуты, наконец, объединились и начали последовательно и настойчиво бороться за власть, политаналитик наградил их другим пассажем: *«Я понимаю оппозиционных политических генералов. Как говаривал еще не впавший в центризбиркомм Виктор Гончар, следующий президент выйдет из депутатского корпуса. Так ведь и следующая оппозиция выйдет из следующего депутатского корпуса. И тогда встанет вопрос: а кто вы такие? Один мой знакомый экс-депутат 12-го созыва резко помудрел после того, как лишился мандата. Он вдруг понял, что даже депутат иногда может ошибаться. А когда депутатов много, они ошибаются еще чаще. Это и называется белорусским политическим процессом»* («БДГ», 18.01. 99).

Или еще — из душещипательного: *«Семен Шарецкий из недолюбливаемого демократами пожилого агрария превратился в общественном мнении в последнего защитника свободы. Валерий Тихиня вообще упоминался с пиететом, достойным святого»* («БДГ», 25.11.96). Любопытно, что бывший председатель Конституционного суда *«упоминался с пиететом, достойным святого»*, самим Александром Иосифовичем: *«...позиция Конституционного суда Беларуси и его председателя Валерия Тихини, вставшего в конфликте двух ветвей власти на сторону буквы закона, стала явлением общественной жизни Беларуси. Явлением, может быть, самым ярким за все постперестроечное время»* («БДГ», 17.10.96), *«Эволюция приводит к установлению и укреплению демократии. Революция порождает Лукашенко. Эволюция выдвигает на первый план Тихиню. Не дай Бог жить в эпоху революций!»* (там же). Нетленно-непреложное «Не отрекаются, любя» здесь, похоже, просто отдыхает.

Так что же тогда делать? Как ни странно, в потоке критики одних и разноса других при всем усердии ответа на этот простой для аналитика вопрос я не нашел. Несмотря на то, что *«сейчас аналитик должен предложить несколько рецептов выходов из сложившейся ситуации, а политик избрать наиболее для себя приемлемый»* («БДГ», 12.06. 97). Наверное, остается только одно: следовать теории малых дел и получать от этого чувство глубокого удовлетворения. *«Я лично отстоял в очереди в универсаме «TAIP» два часа, купил все те же два десятка [яиц], так жена радовалась больше, чем золотой цепочке, подаренной на юбилей»* («БДГ», 3.12.98). Стойте в свободе, Александр Иосифович!

КАНФЕСІІ

# Беларусь у свеце праваслаўя

У сучасным хрысціянстве праваслаўе займае трэцяе месца па колькасці вернікаў пасля каталікоў і пратэстантаў. Праваслаўная царква ў адрозненне ад каталіцкай не мае адзінага цэнтра, яна складаецца з некалькіх аўтакефалій. Аўтакефалія — перакладаецца з грэчаскай як самакіраванне і азначае адміністрацыйную незалежнасць царквы. Сёння існуюць **15 аўтакефальных праваслаўных цэркваў**, афіцыйны пералік якіх згодна царкоўнай традыцыі ўлічвае час атрымання аўтакефаліі.

*Канстанцінопальская праваслаўная царква ўтварылася* ў IV ст. на грунце сталічнай епархіі ў Візантыйскай імперыі. Яе патрыярх - «першы сярод роўных»

*Александрыйская праваслаўная царква* – адна з найстарэйшых аўтакефальных цэркваў. Яе патрыярху адведзена другое месца пасля канстанцінопальскага.

*Анціяхійская праваслаўная царква* мае патрыярха з паловы V стагоддзя.

*Ерусалімская праваслаўная царква* ў 451 годзе (IV Усяленскі сабор) атрымала для свайго прадстаяцеля патрыяршы тытул.

*Грузінская праваслаўная царква* мае аўтакефалію з 487 года. У 1796 годзе пасля далучэння да Расіі Грузінская царква трапіла пад начала Сінода. Пасля лютаўскай рэвалюцыі грузінскае духавенства аднавіла аўтакефалію сваёй царквы.

*Руская праваслаўная царква* вядзе пачатак з 988 года, калі візантыйскае духавенства хрысціла кіяўлянаў. Аўтакефалію руская праваслаўная царква атрымала ў 1448 годзе, патрыяршаства – у 1589 годзе. У 1721 годзе Пётр I скасаваў патрыяршаства, і Руская праваслаўная царква па 1918 год узначальвалася «Святейшим правительствующим Синодом».

*Сербская праваслаўная царква* атрымала аўтакефалію ў 1219 годзе, патрыяршае праўленне — у 1346 годзе.

*Румынская праваслаўная царква* аўтакефалію атрымала ў 1865 годзе. Пасля Першай сусветнай вайны ў склад Румынскай праваслаўнай царквы ўвайшлі мітраполіі, што знаходзіліся на тэрыторыі былой Аўстра-Венгерскай манархіі. Царква ачольваецца патрыярхам з 1925 года.



*Балгарская праваслаўная царква* ўтварылася ў IX стагоддзі. У 1870 годзе туркі намагаліся знішчыць яе статус да экзархата, але праз два гады аўтакефалія адрадзілася. Прыціснуты султанам сабор Канстанцінопальскай царквы гэтую аўтакефалію не прызнаў, а саму Балгарскую царкву абвясціў схізматычнай. Схізма была знятая ў 1945 годзе. Патрыяршаства адроджана ў 1953 годзе.

*Кіпрская праваслаўная царква* была прызнаная незалежнай яшчэ ў 431 годзе. Перажыла ціск арабаў, турак, крыжакоў, англійскую акупацыю вострава. Арганізацыйную самастойнасць атрымала ў 1947 годзе.

*Эладская (грэчаская) праваслаўная царква* вядзе пачатак з II стагоддзя. З канца IX па XIX стагоддзе знаходзілася ў юрысдыкцыі Канстанцінопальскага патрыярха. Аўтакефалію атрымала ў 1850 годзе.

*Албанская праваслаўная царква* вядзе пачатак з III стагоддзя. Аўтакефалію атрымала ў 1937 годзе. Пры рэжыме Ходжы ўсе цэрквы былі зачыненыя. З 90-х гадоў пачалося адраджэнне царквы. Прызначаны Сінодам Канстанцінопальскай царквы экзарх павінен падрыхтаваць арганізацыйную структуру дзеля атрымання аўтакефаліі.

*Чэхаславацкая праваслаўная царква* займела аўтакефалію ў 1951 годзе.

*Польская праваслаўная царква* ўтворана з прыходаў Рускай праваслаўнай царквы пасля Рыжскага міру 1921 года. Аўтакефалію атрымала ў 1948 годзе.

*Амерыканская праваслаўная царква* пачалася з утварэння на Алясцы ў 1793 годзе рашэннем Сінода Рускай царквы місіі для Амерыкі. Аўтакефалію атрымала ў 1970 годзе.

Апроч аўтакефальных, ёсць **аўтаномныя праваслаўныя цэрквы**. Аўтаномія азначае незалежнасць царквы ў пытаннях унутранага кіравання, нададзеную аўтакефальнай царквой, у склад якой аўтаномная царква ўваходзіла раней на правах экзархата ці епархіі.

Сёння існуюць аўтаномныя праваслаўныя цэрквы: *Сінайская* (юрысдыкцыя Іерусалімскага патрыярха), *Фінляндская і Крыцкая* (юрысдыкцыя канстанцінопальскага патрыярха), *Японская* (юрысдыкцыя маскоўскага патрыярха).

**Беларуская праваслаўная акруга** (экзархат Рускай праваслаўнай царквы).

У праваслаўных памесных цэрквах *экзархатам* называецца царкоўная акруга, якая аб'ядноўвае некалькі епархіяў і мае некаторую самастойнасць. На чале экзархата стаіць прызначаны патрыярхам і падпарадкаваны яму экзарх. З грэчаскай мовы *экзарх* перакладаецца як начальнік, наместнік. У Візантыйскай імперыі экзархам называўся правіцель дыяцэза (вобласці) , адваяванай у варвараў (найперш, у Афрыцы), а таксама епіскап, які кіруе царквой у дыяцэзе.

Першая на Беларусі праваслаўная епархія была заснаваная ў 992 годзе, другая – у 1005 годзе. Яны падпарадкоўваліся кіеўскай мітраполіі, а тая ў сваю чаргу канстанцінопальскаму патрыярху.У перыяд 1654—1688 гадоў кіеўская мітраполія распалася на дзве юрысдыкцыі: маскоўскую і канстанцінопальскую. Тыя дыяцэзы мітраполіі, што былі ў Рэчы Паспалітай, працягвалі заставацца ў юрысдыкцыі Канстанцінопальскай патрыярхіі. Дыяцэзы, што апынуліся на землях, забраных Масквой, адпаведна апынуліся пад юрысдыкцыяй маскоўскага патрыярха.У 1686 годзе патрыярх Дыянісій па загаду турэцкага візіра, які атрымаў ад Масквы вялікі хабар, выдаў грамату на адмаўленне ад кіеўскай мітрапаліі на карысць Маскоўскай патрыярхіі. Кананічна гэтая адмова несапраўдная, але тады Масква на гэта не ўважала. Кіеўская мітрапалія, з якой пачалося хрысціянства на ўсходнеславянскіх землях, была ліквідаваная. Адпаведна адзіная на той час беларуская праваслаўная епархія перайшла пад юрысдыкцыю маскоўскага патрыярха, потым – Сінода.

У 1922 годзе, праз чатыры гады пасля адраджэння патрыяршаства ў Рускай праваслаўнай царкве, патрыярх Ціхан быў арыштаваны бальшавікамі. Тады яго наместнік выдаў цыркуляр для епіскапаў з дазволам кіраваць сваімі епархіямі самастойна. На грунце цыркуляра ў 1922 годзе ў Мінску была заснаваная самастойная мітраполія, якую ачоліў мітрапаліт Мельхіседэк. Аднак да аўтакефаліі не дайшло, бо ў Савецкай Беларусі цэрквы зачыняліся, а епархіі Заходняй Беларусі ўвайшлі ў склад Польскай аўтакефальнай царквы.

Пасля распаду СССР і абвяшчэння незалежнасці Беларусі Маскоўская патрыярхія прызначыла на Беларусь экзархам мітрапаліта Філарэта. Зараз на Беларусі 6 епархіяў, мова богаслужэння галоўным чынам расійская. У межах рэспублікі экзархат называюць Беларускай праваслаўнай царквой, шырокаму праваслаўнаму свету такая царква невядомая.

У 1942 годзе падчас нямецкай акупацыі мінскі сабор зацвердзіў Статут **«Святой Праваслаўнай Беларускай Аўтакефальнай царквы»**, у якім было азначана, што «кананічнае аб'яўленне аўтакефаліі наступіць пасля прызнання яе ўсімі аўтакефальнымі праваслаўнымі цэрквамі». Сабор выслаў адпаведнае прашэнне да Канстанцінопальскага патрыярха. Неўзабаве пасля вайны епіскапат Беларусі адмовіўся ад рашэння сабора 1942 года і вярнуўся ў Маскоўскую патрыярхію. Праз два гады (5 чэрвеня 1948 года) у нямецкім горадзе Канстанцы сабор праваслаўнага беларускага духавенства, што ратавалася ад сталіншчыны, з дапамогай Украінскай аўтакефальнай праваслаўнай царквы аднавіў аўтакефалію. Беларуская аўтакефальная царква мае асяродак у Нью-Йорку.

*Па матэрыялах прэсы*

**Я. М.**

## Поздравления с «подтекстом»

Философию капитана Жеглова творчески развил Гэри Копсон, начальник полиции лондонского района Ист-энд, известного своими далеко не утонченными нравами: вор не только должен сидеть в тюрьме, но и, выйдя из нее, постоянно испытывать священный трепет перед блюстителями порядка.

Мистер Копсон даже разработал свою методику устрашения криминального мира с целью предотвращения рецидивов. С некоторых пор специалисты по квартирным кражам, уличные воришки, распространители наркотиков, сутенеры и прочие преступные элементы получают в день своего рождения простенько, но со вкусом оформленное поздравление. На его обложке изображен местный полицейский участок, а на внутреннем развороте красуется внушительная дверь тюремной камеры. Надпись под ней гласит: «Мы думаем о Вас в день Вашего рождения».



## Толстый – значит умный

Египетские ученые встали на защиту толстяков. По мнению исследователей Хелуанского университета, «полновесные» люди — это самая активная и умная часть населения Земли.

Как считают в этом университете, почти каждый второй толстяк — умница. Среди упитанных встречается в три раза больше людей, отличающихся особо острым умом, чем среди худых, и лишь пять процентов из них можно отнести к глупцам. Ссылаясь на примеры из истории, ученые отмечают, что наибольшую славу снискали короли, политические лидеры и деятели искусства, чей вес превышал сто килограммов. Среди знаменитых толстяков они называют основателя современного египетского государства Мухаммеда Али, а также Юлия Цезаря, Уинстона Черчилля и Никиту Хрущева.

ЗДАРОЎЕ

## Головную боль можно... перехитрить

1. Конечно, быстрее всего погасить головную боль в зародыше, приняв подходящее лекарство при первых же признаках приближающегося приступа.

2. В некоторых случаях воображение может оказаться эффективнее медикаментов. Дайте волю своей фантазии. Например, постарайтесь представить боль в виде большого красного шара, наполненного водой. Сбоку он заткнут пробкой. Мысленно выньте ее, дайте воде вытечь — и головная боль отступит.

3. Сделайте массаж головы. Разотрите ее подушечками пальцев, как при мытье. Другой прием: щеткой из натуральной щетины или деревянным гребешком массируйте голову медленными круговыми движениями от виска ко лбу и далее по направлению к затылку.

4. Постарайтесь вздремнуть. Сон вполне может разжать тиски боли.

5. Но как уснуть, если голова раскалывается? Попытайтесь просто расслабиться. В уютной затемненной комнате удобно устройтесь в кресле или на кушетке и вновь призовите на помощь воображение: представьте себе песчаный берег, набегающие волны, которые как будто слизывают боль и уносят ее далеко в море.

6. Не укутывайтесь ночью с головой одеялом — вы уменьшаете доступ кислорода, увеличиваете содержание углекислого газа в крови и просыпаетесь с головной болью.

7. Боль может быть вызвана и неудобным положением во время сна. Не лежите на животе — затекают мышцы шеи. Чаще меняйте положение, пользуйтесь специальной подушкой, форма которой повторяет изгиб шейного отдела позвоночника, создавая ему надежную опору.

8. Не увлекайтесь спиртными напитками, к тому же обращайте внимание на их качество и цвет. Замечено, что алкогольные напитки темного цвета (бренди, красное вино, виски) чаще вызывают головную боль.

9. Увеличьте потребление магния. Ученые обнаружили пониженное содержание магния в крови у постоянно жалующихся на головную боль. Включайте в рацион бобы, продукты из цельного зерна, дары моря, орехи. Посоветуйтесь с врачом о возможности принимать препараты магния.

10. Не принимайте лекарства без назначения специалиста. Не увеличивайте самовольно дозу назначенных вам лекарств, иначе побочным действием может стать все та же головная боль.

11. Не напрягайте зрение. Если вы подолгу смотрите телевизор или работаете за компьютером, каждые 45 минут закрывайте глаза ладонями и оставайтесь в таком положении не менее 30 секунд.

12. Всегда держите спину безукоризненно прямой. Не сутультесь, не склоняйте низко голову — это вызывает чрезмерное напряжение мышц.

© *Mirror Weekly 1999*

© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. E-mail: edit@svaboda.minsk.by Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996 Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173.
Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 511 Нумар падпісаны ў друк 17/02/99 (15:00) Наклад — 17.36 0